*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 16(332)** **15-30 ЛІСТАПАДА 1997 г.**

## *Шаноўнае спадарства*

Перад вамі другі нумар газеты "Наша слова" з Ліды. Вы ўжо змаглі ацаніць першы і мы ўжо пачулі шмат нараканняў. Мы будзем імкнуцца ўлічыць усё. Але, пэўна, не зможам зрабіць гэтага адразу.

Выданне рэспубліканскай газеты ў раённым цэнтры спарадзіла шмат нечаканых праблем, да якіх мы не былі гатовыя: пошта аказалася непадрыхтаванай да экспедыцыі газеты з Ліды на краіну. Мы пагадзіліся з тым, што да Новага года газета будзе экспедавацца толькі па Гарадзенскай вобласці, а на Менск і Маладзечна мы дастаўляем газету сваімі сіламі. У сваю чаргу Сакратарыят ТБМ з Менска адпраўляе газету па радах усіх абласных цэнтраў акрамя Горадні.

Мы вымушаны зараз самастойна ўпакоўваць газеты на кожны з 17 раёнаў Гарадзенскай вобласці.

Газета "Наша слова" ўключана ў каталог падпіскі на 1998 год, але , паколькі замова на ўключэнне прыйшла з Ліды, мы трапілі ў раздзел "Абласныя газеты", стар. 18 падпісны індэкс 63865. Гэта, безумоўна, адаб'ецца на падпісцы.

З першага лістапада паднялася цана на друк недзе на сорак працэнтаў.

Тым не менш, мы выходзім і будзем выходзіць.

Мы атрымалі даволі шмат лістоў. Праўда большасць матэрыялаў стасуецца да чацвёртай старонкі, але тым не менш: "Вялікі дзякуй усім, хто верыць у "Наша слова".

## БЕЛАРУСЫ АМЕРЫКІ З НАМІ

**На днях у Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны завіталі Вітаўт і Зора Кіпелі за Злучаных Штатаў. Яны прывезлі з Амерыкі ахвяраванні для нашай арганізацыі, якая знайходзіцца зараз у цяжкіх мтэрыяльным стане.**

**Таварыства звяртаецца да сяброў з далёкага замежжа са словамі ўдзячнасці.**

### *Шаноўныя Зора і Вітаўт!*

*Даўно ведаем Вас, як самаахвярных рупліўцаў на ніве беларускай культуры, як шчырых і дасведчаных працаўнікоў нашага Адраджэння. Яшчэ раз мы ўсё гэта адчулі ў вельмі цяжкі і складаны для нашага Таварыства час.*

*Ваша сяброўскае разуменне нашых праблем, Ваша вельмі своечасовая і рэальная падтрымка нашай дзейнасці ў многім паспрыялі таму, што Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны працуе і імпэт наш не згасае.*

*Шчыра дзякуем Вам за Вашы старанні, за Вашу дапамогу.*

*Зычым Вам здароўя, нястомнасці, вялікіх поспехаў.*

**Генадзь Бураўкін**
**Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**
**Сакратарыят ТБМ.**

### *Шаноўныя суайчыннікі!*

*Шчыра дзякуем за сяброўскую падтрымку Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны ў цяжкі для яго час. І Ваша спрыянне яго дзейнасці дапамагло, у прыватнасці, таму, што адноўлены выпуск газеты "Наша слова" і зноў пачаў працаваць у цэнтры Менска шапік, дзе прадаюцца практычна ўсе беларускамоўныя выданні.*

*Спадзяёмся, што наша супрацоўніцтва на карысць духоўнага адраджэння Бацькаўшчыны, у імя яе росквіту будзе працягвацца.*

*Жадаем Вам моцнага здароўя і вялікага шчасця.*

**Генадзь Бураўкін**
**Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**
**Сакратарыят ТБМ.**

### СПІС АХВЯРАДАЎЦАЎ НА КАРЫСЦЬ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ АД СУАЙЧЫННІКАЎ ЗША (у долорах)

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Зора Кіпель | 20 | 28. Васіль і Галіна Русакі | 100 |
| 2. Драбышэўскі | 10 | 29. Сям'я Стагановічаў | 100 |
| 3. Вера і Францішак Бартулі | 100 | 30. Сям'я Няпеіных | 20 |
| 4. Лявон Юрэвіч | 10 | 31. Сям'я Каранеўскіх | 100 |
| 5. Анатоль Тальлянскі | 20 | 32. Мікола Грэбень | 100 |
| 6. Алеся Сёмуха | 20 | 33. Кацярына і Славік Вініцкія | 250 |
| 7. Святлана і Ўладзімір Гладуны | 20 | 34. др. Уладзімір Набагез | 500 |
| 8. Юры Лапіцкі | 20 | 35. Мікола Прускі | 40 |
| 9. Алесь Міцкевіч | 10 | 36. Браніслаў Даніловіч | 100 |
| 10. Францішка Рабушка | 5 | 37. Віталь Кажан | 40 |
| 11. Сп. Халецкі | 5 | 38. Васіль Мельяновіч | 100 |
| 12. Людміла Кашына | 10 | 39. др. Вітаўт і Вера Рамукі | 1000 |
| 13. Сяргей Трыгубовіч | 5 | 40. Расціслаў Завістовіч | 40 |
| 14. Алесь Крыштаповіч | 10 | 41. др. Ала Рамана (Орса) | 100 |
| 15. айцец Юры (Э. Рыжы) | | 42. Віталь Зайка | 20 |
| 16. Зьміцер Левіт | 10 | 43. Ванкарэм Нікіфаровіч | 50 |
| 17. Сяргей Мурог | 20 | 44. В. М. | 100 |
| 18. Уладзімір Целіца | 5 | 45. Кастусь Калоша | 50 |
| 19. Валеры Мілановіч | 5 | 46. Нікадэм Жызнеўскі | 100 |
| 20. Пятро Рыжы | 4 | 47. Клара Пануцэвіч | 25 |
| 21. Антон Шукелойць | 100 | 48. Людвіка Беленіс | 25 |
| 22. Антон Даніловіч (Золак) | 125 | 49. Мікола і Марта Кучуры | 20 |
| 23. Кастусь Акула | 100 | 50. Васіль і Маргот Багданы | 15 |
| 24. Аляксандр Сільвановіч | 100 | 51. Генрых Сенкевіч | 25 |
| 25. Адольф Субота | 100 | 52. др. Барыс Рагуля | 150 |
| 26. Уладзімір Машанскі | 10 | 53. др. Ян Запруднік | 100 |
| 27. Янка Азарка | 10 | 45. Івонка Сурвіла | 200 |

## ЯДНАННЕ З ПРОДКАМІ



*Свіслач. Ля магілы Віктара Каліноўскага*

Канец кастрычніка і пачатак лістапада на Беларусі прайшлі пад знакам адзінства ўсіх беларусаў: жывых і тых, хто ўжо пайшоў ад нас. Вось некалькі фрагментаў са Усябеларускіх Дзядоў.

25 кастрычніка ў г. п. Свіслач Гарадзенскай вобласці адбылося асвячэнне адноўленай магілы Віктара Каліноўскага, старэйшага брата Кастуся Каліноўскага, аднаго з ідэёлагаў паўстання 1863 года. Дэлегацыі з Менска, Горадні, Ліды. Шчучына, Мастоў, Ваўкавыска, Гудзевіч, Луны прынялі ўдзел у набажэнстве, якое правёў вуніяцкі святар айцец Віктар з Горадні, пабывалі каля помніка Рамуальду Траўгуту, каля помніка Кастусю Каліноўскаму, на сядзібе Каліноўскіх у Якушоўцы. Дзякавала людзям за клопат і павагу да роду Каліноўскіх Ніна Каліноўская з Ліды.

Менская, Гарадзенская і Лідская моладзь прыняла прысягу на вернасць Беларусі.

Першага лістапада адбылося ўшанаванне памяці продкаў у Лідзе. Тут была папраўлена магіла ўдзельніцы паўстання 1863 года Валеры Цехановіч, ускладзены кветкі, запалена свечка. Ускладзены кветкі і запалена свечка на магіле яшчэ аднаго героя паўстання 1863 года ксендза Адама Фалькоўскага.



*Беларуская моладзь на сядзібе Каліноўскіх ў Якушоўцы*



*Устаноўка парушанага помніка Валерыі Цехановіч у Лідзе*

Другога лістапада ў Менску прайшло традыцыйнае шэсце на Курапаты. Тут адбыўся жалобны мітынг.

Другога лістапада ў Горадні. Падзяліўшыся на дзве групы гарадзенцы рушылі на могілкі і да памятных месцаў горада. Ускладаліся кветкі, запальваўся зніч. У 12.30 абедзве групы сустрэліся каля "Пагоні на Грунвальд".

Аналагічна ўшаноўвалася памяць прашчураў і ў іншых мясцінах Беларусі.

## Лошыцкія курапаты



*ЛОШЫЦКІ КРЫЖ. МЕНСК. 2.11.97 г.*

У часы перабудовы, калі савецкая ўлада мусіла пад націскам грамадскасці прыадкрыць таямніцы сталінскіх злачынстваў у "Лёсе" выйшаў артыкул З. Пазняка прысвечаны Курапатам. Неўзабаве высветлілася, што такіх Курапат на Беларусі дзесяткі, а мажліва, нават і сотні. Высветлілася, што акрамя Курапат масавыя забойствы людзей у Менску адбываліся у раёне сённяшняга парка "Чалюскінцаў" і ва ўрочышчы Лошыца, непадалёк ад славутага Лошыцкага парка.

Некалькі год назад Свіслацкая рада БНФ Ленінскага р-на г. Менска ўстанавіла ў гэтым жалобным месцы драўляны крыж і стала праводзіць на Дзяды тут мітынг-рэквіем.

У гэтым годзе сумесна адзначыць 60 год Сталінскага ГуЛагу вырашылі ўсе дэмакратычныя сілы Ленінскага раёна беларускай сталіцы.

Заяўку на правядзенне жалобнага шэсця і мітынга-рэквіема у Мінгарвыканкам падалі і атрымалі дазвол рааённае таварыства ТБМ, Свіслацкая Рада БНФ, раённая арганізацыя АГП і БСДГ, а таксама Партыя Здаровага Сэнсу. Кожная арганізацыя мела свой вянок з адпаведным подпісам, сваю сімволіку і адпаведныя лозунгі-плакаты. На чале калоны стаялі са сваім вянком прадстаўнікі ТБМ. Нягледзячы на моцны дождж і халодны вецер у акцыі ўзяло ўдзел каля 150 чалавек. Жалобную імшу каля Лошыцкага мемарыяльнага крыжа правёў на добрай беларускай мове ксендз сп. Ломук. У сваім казанні ён заклікаў не забываць не толькі ахвяр палітычных рэпрэсій, але і родную мову, якая таксама моцна пацярпела ад тагачаснага рэжыму. Сярод выступоўцаў ад розных плыняў дэмакратычных сілаў меў слова і намеснік старшыні Рэспубліканскай рады ТБМ. Пасля сканчэння мітынгу яго ўдзельнікі накіраваліся ў Курапаты.

**Алег Трусаў, першы намеснік ТБМ**

## Сойм БНФ

Сёмага лістапада ў Менску прайшоў чарговы сойм БНФ "Адраджэньне".

Сойм разгледзеў шляхі негвалтоўнага змагання з рэжымам і асноўныя лозунгі Фронту на восень і зіму гэтага году.

Сойм прынцыпова падышоў да стратэгіі Фронту, і прыняў замераванне ад вулічнай дэмакратыі перайсці да "інтэлектуальнай бітвы з рэжымам".

***Шаноўныя сябры "Нашага слова".***
***Ізноў можна падпісацца на нашую газету. Волей абставін у каталогу на 1998 год "Наша слова" знайходзіцца ў раздзеле "Абласныя газеты" старонка 18. Падпісны індэкс 63865.***



№ 16(332) 15-30 ЛІСТАПАДА 1997 г. НАША СЛОВА

## У ВІЦЕБСКУ СТВОРАНА АБЛАСНАЯ РАДА ТБМ

*У Віцебску прайшла ўстаноўчая канферэнцыя абласной арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.*

*Старшынстваваў на канферэнцыі Старшыня Рэспубліканскай рады ТБМ Генадзь Бураўкін. Прысутнічалі дэлегаты ад дзевяці рэгіянальных і гарадскіх арганізацый. Прадметам абмеркавання сталі: рэальны статус беларускай мовы ў сённяшнім жыцці і праблема дзейнасці арганізацый.*

*Канферэнцыя заснавала Віцебскую абласную арганізацыю ТБМ і абрала абласную раду. Сатршынёй рады аднагалосна абраны Восіп Навумчык з Віцебска.*

**Прэс-цэнтр ТБМ**

## У БАРАНАВІЧАХ

# РОДНАЯ МОВА Ў НАМОРДНІКУ



У мае рукі і на ўласныя вочы трапіў (даклад-ней сказаць, я яго прыдбаў)

**"Проездной билет Автобус**
**Предъявлять при входе в автобус**
**АП2 г. Барановичи"**

на зваротным баку:

**"Обратно не принимается, не обменивается,**
**при утере не восстанавливается.**
**Проверяйте наличие водяных**
**знаков на просвет.**
**Билет без водяных знаков недействителен".**

Тое, што ўсё па-руску, канешне, мяне, беларуса, дзівіць, пра гэта пісаў яшчэ наш бессмяротны Пімен Панчанка:

*Я не журуся*
*Пра казачны век залаты,*
*Я не захоплены*
*І старажытнасцю моднаю...*
*І напісаў не аб тым я,*
*А толькі аб тым:*
*З ласкі чыноўнікаў*
*Родная мова ў наморднiку.*

Так, так, мая мова даўно ў ланцугах, кайданах, намордніках. Але калі зноў паглядзеў на франтальны бок праязднога квітка, дык у мяне ледзь не адняўся, не здранцвянеў язык, там я ўбачыў і штамп, а на ім:

**"August 08. 08 август 1997. Билетная касса АП-2"**

Дык зноўку прыйшлі радкі незабыўнага П. Панчанкі:

*Што за няшчасная*
*Беларуская нацыя!*
*Што за пакорлівы*
*Родны народ:*
*Паланізацыя, русіфікацыя,*
*Германізацыя —*
*І заўсёды прыгнёт.*

Бачыце, родныя людцы! Не да спадобы чыноўнікам з Баранавічаў беларуская мова, яны яе стыдаюцца — саромеюцца і ўводзяць ужо нямецкую, ну рыхтык 41-шы год. Як быццам, ізноў пад акупацыяй. Дык тады, прынамсі пісалі па-нямецку і па-беларуску. Зараз жа нейкая двайная акупацыя. Як каму, а мне пра ўлады ў Баранавічах думаецца, што яны па-свінску адносяцца да родных вытокаў і нахабна грэбуюць матчынай мовай... Ці можа ўсім нам яшчэ раз падумаць над неўміручымі словамі П. Панчанкі:

*І вас тупалобыя*
*Душыцелі мовы,*
*Бог пакарае:*
*Высокія крэслы,*
*Пасады і прывілеі —*
*Знікнуць усе дачыста;*
*Станеце зноў жыхарамі*
*Паўночна-Заходняга краю:*
*Ні ЦК,*
*Ні Вярхоўнага Савета,*
*Ні савета Міністраў!*
*... Да роднай зямлі я*
*Душою і сэрцам прыкуты,*
*Куваюць зязюлі,*
*Клякочуць буслы на маёй, Беларусі,*
*Ты гора маё і пакута,*
*І ад цябе я ніколі*
*Не адцураюся,*
*Не адракуся!*

**Міхась Маліноўскі,**
**правадзейны сябар Геаграфічнага таварыства,**
**г. Баранавічы.**

# Паэтычныя сустрэчы

Вось ужо пяты месяц у скверы Янкі Купалы Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны сумесна з Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыяй "Народная Грамада" ладзіць паэтычныя сустрэчы са знакамітымі паэтамі і новымі імёнамі ў паэзіі, з папулярнымі бардамі і тымі, хто ўчора ўпершыню агучыў свой твор, з песеннымі калектывамі Беларусі.

Прысутныя сустрэліся з майстрамі паэтычнага слова Н. Гілевічам, В. Зуёнкам, М. Аўрамчыкам, С. Грахоўскім, С. Законнікавым, А. Вярцінскім, Л. Дранько-Майсюком, А. Хатэнка. Аўдыторыю зачароўвалі барды А. Атаманаў, Э. Акулін, П. Русаў, В. Пазнякевіч і інш.

Народную і аўтарскую песню данеслі да слухача спеўныя калектывы "Дзянніца", "Менскі гармонік",, "Ліцьвіны" і др.

Так і 16 кастрычніка ва ўтульнай зале музея Я. Купалы, дзе цяпер у сувязі з пахаладаннем адбываюцца паэтычныя сустрэчы, а 18-ай гадзіне пастаянны вядучы старшыня Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны Г. Бураўкін знаёміў слухачоў з паэтэсай Раісай Баравіковай. Шчырыя лірычныя радкі вершаў пра каханне, пра духоўную повязь людзей бралі ў палон, адсоўвалі цяжкую рэальнасць і адчай няўтульнасці сённяшняга жыцця, вялі прысутных у шчымлівую радасць чалавечага існавання. Нязмушаныя вобразы вершаў Р. Баравіковай: вярба, арабіна, палявая дарога — вярталі нас да спрадвечных скарбаў беларускай зямлі. Пяшчотны голас паэтэсы спляў у сэрцах упэўненасць і аптымізм, веру і каханне, любоў і святло.

У дзень свайго 60-гадовага юбілею сустрэлася з аматарамі паэзіі Лілея Міхайлаўна Матусевіч. Карэнная менчанка, яна ўсхвалявала паэтычнымі радкамі пра ваенны і пасляваенны Менск, пра нялёгкія пуцявіны ўласнага лёсу. Простая, у нечым падзіцячы наіўная, Лілея Міхайлаўна то жартавала з прысутнымі, то зачароўвала лірычнымі хвалькамі сваіх вершаў. Прагучала песня на словы паэткі ў выкананні аўтара Пятра Русава.

Вельмі цёпла сустрэла зала выступленне барда Івана Беладубенкі, які ўспомніў некалькі цікавых момантаў з часоў сумеснай працы са старшынёй ТБМ Генадзем Бураўкіным на Беларускім тэлебачанні, пазнаёміў са сваімі песнямі.

Вялікую цікавасць выклікала выступленне барда Андрэя Латушкіна, студэнта гістфака БДУ. Яго песні пра чарнобыльскую навалу напаўнялі тугой, яго аўтарскі погляд на купалаўскае "А хто там ідзе?" выклікаў новыя асацыяцыі.

Па традыцыі вечарына завяршылася паэтычнымі радкамі Генадзя Бураўкіна.

Сярод прысутных за гэтыя 4 месяцы ўжо склалася тая пастаянная група аматараў паэзіі, песеннай творчасці, якая не прапускае ніводнай сустрэчы, а многія з'яўляюцца не толькі слухачамі, але і выступоўцамі. Вось гэтая магчымасць вынесці на суд залы свае вершы, песні прыцягвае тых, хто спрабуе сябе на ніве творчасці. Зала настолькі шчыра прымае дэбютанта, што на паэтычных сустрэчах просяць слова студэнты, рабочыя, пенсіянеры, тыя, хто ніколі не асмеліўся б прамаўляць на сцэне. Гэта вельмі збліжае нас, усіх, каго хвалюе адраджэнне вольнай незалежнай беларускай Беларусі.

**Людміла ДЗІЦЭВІЧ,**
**намеснік**
**старшынэ ТБМ,**
**адказны сакратар.**



## АДСЮЛЬ НАЧЫНАЕЦЦА БЕЛАРУСЬ

Усё пачынаецца спачатку. У інтэрнаце Лідскага завода харчканцэнтратаў з 8 верасня гэтага года створаны гурток беларусазнаўства. Узначальвае яго Леанід Анацка, першы намеснік старшыні Лідскай рады ТБШ.

У гуртку — дзеці выключна з гэтага інтэрната, збіраюцца яны кожны панядзелак і чацвер. У інтэрнаце гуртку выдзелены пакой. Завод даў грошай на кніжкі, алоўкі, фламасцеры, выдзеліў аўтобус на паездку ў Мір і Наваградак.

Радасна і сумна з гэтага. Радасна, што ёсць яшчэ беларусы, якія шчыруюць на нацыянальнай ніве, і сумна, што ізноў, як і дзесяць гадоў назад, мы мусім пачынаць з гурткоў беларусазнаўства.

# З гісторыі беларускай мовы. Даведыйскі перыяд.

**Станіслаў СУДНІК**

**Заканчэнне. Пачатак у № 15**

Пятай галоснай хутчэй за ўсё бала "і", якая непазбежна пацягнула за сабой "ы". Зычны спектр пры гэтым развіваўся значна інтэнсіўней і больш шматгранна. Працэсы яго развіцця нават у плямёнаў адной расы ішлі сваімі шляхамі. Але, калі тут магчымасьць разыходжаньня была абмежавана хаця б фізіялагічнымі асаблівасцямі таго ж горла, то для словаўтварэння і для сказаўтварэння прастора была поўная.

На сёння абсалютная большасць навукоўцаў прытрымліваюцца схемы, якую можна назваць вавілонскай: "Вось была адна нейкая прамова, а потым з яе вылучылася мноства моваў". І сыходзячы з гэтага пачынаюць шукаць нейкую праславянскую, прагерманскую, праарыйскую, ці прасеміцкую мовы. Нічога падобнага ніколі не было. Ні адна мова не ўзнікла ў выніку аддзялення яе ад іншай. Усе мовы прайходзілі толькі два этапы: самастойнага развіцця і аб'яднання з іншаю. На пачатковым этапе ўзнікла мноства моўных сістэмаў і слоўных палёў. У залежнасці ад тога, як яны ўзаемадзейнічалі паміж сабой, як і што пераймалі адно ў другога, так і ішло развіццё моваў. Разглядаючы пазнейшыя перыяды, мы гэта пакажам на фактычным матэрыяле. А на дадзеным, падлеглым разгляду этапе, мы можам сцвярджаць толькі наступнае. Каб з'явілася мова, павінны былі з'явіцца суб'екты, для карыстання ёю. І вялікая маса суб'ектаў. Толькі тады колькасць магчымых гукаў магала перайсці ў асэнсаваныя словы.

Рассяленне краманьёнца было даволі імклівым. І плямёны людзей, калі нават і быў нейкі адзін цэнтр іх з'яўлення, разбрыліся па планеце раней, чым навучыліся гаврыць. У якім месцы з'явілася першая супольнасць, здольная абменьвацца асэнсаванымі гукамі, сказаць цяжка. Верагоднасць была ўсюды аднолькавая. І калі, нават, паспрабаваць гаварыць пра нейкі першапачатковы цэнтр маўлення, то гэта нічога не мяняе. Перадавалася толькі традыцыя выпрацоўваць гукі, а ўсё астатняе дасягалася самастойна.

Мы разгледзелі першапачатковыя аданкарэнныя словы беларускай і нямецкай моўных сістэмаў. Безумоўна, там шмат агульнага, хаця на першы погляд і не відно. Там агульная сістэма галосных, але сістэма зычных ужо адрозная нават на гэтым этапе. І гэта мы гаворым пра мовы, якія найбольш блізкія, якія праз дзесяткі тысяч гадоў пранікалі адна ў адну.

А зараз трэба зрабіць з усяго сказанага зразумелую выснову. Як было паказана, на першапачатковым этапе станаўлення моваў дзейнічалі ў асноўным шэсць галосных. Пры гэтым фактычна не было ётавых. "І" з'явілася ў мове пасля таго, як чалавечая папуляцыя ўжо асэнсавана магла перадаваць інфармацыю.

Адсутнасць ётавых дае падставу гаварыць, што маўленне на гэтым этапе насіла характар шырокага ўжытку зацвярдзелых формаў. Сёння гэтая традыцыя з усіх блізкавядомых моваў захавалася толькі ў беларускай мове, што яшчэ раз падкрэслівае яе глыбокую старажытнасць. Я не маю тут намеру сцвярджаць, што "Адам і Ева гаварылі па-беларуску", але характар маўлення сёняшняга беларуса і магчымы характар маўлення, скажам так, спалучэння зычных і галосных гукаў першымі старажытнымі людзьмі, эдэнтычны.

Дапытлівы навуковец можа абвінаваціць мяне ў недастатковай чысціні развагаў. Маўляў, дзве мовы — гэта мала. Нельга браць першапачатковы фактычны матэрыял з беларускай мовы і рабіць выснову па той жа мове.

Абсалютна згодзен. Але артыкул гэты — не дысертацыя, а таму, безумоўна, не ахоплівае ўсяго спектра моваў і словаў. Тым не менш асноўная выснова пра адсутнасць у мове старажытнага чалавека ётавых галосных лёгка пацвярджаецца. Я не буду браць аданскладовыя назвы з расейскай мовы, яны эдэнтычныя. У англійскай: эйш — ясень, фіш — рыба, фэкс — ліса, фрэг — жаба. У французскай мове: boeuf — вол, bouc — казёл, breme — лешч, cane — качка, cerf — алень, cep — вінаградная лаза, chat — кот, chene — дуб, charme — граб, chevre — каза, bois — лес, дрэва. І так можна ісьці далей. Ётавых няма. Няма мяккіх "р", "ч", "ш", "ж", "дж". Навогул мяккіх зычных амаль няма, а калі і трапляюцца, то толькі перад "і".

Час змякчэння мовы — значна больш позні час.

Такім чынам, што дае гэтае даследванне ў практычным плане. Магчыма нічога. Была паказана глыбокая старажытнасць беларускіх зацвярдзелых формаў, а, калі прасцей, то была зроблена спроба папрацаваць з беларускай мовай на глыбіні 40 тысяч гадоў.





# ШЛЯХ ДЛЯ НОВЫХ БЕЛАРУСАЎ

Пасля разгрому паўстання 1863 года грамадска-культурнае жыццё ў беларуска-летувіскім краі замерла. Мураўёў-"вешальнік" і ягоныя паплечнікі імкнуліся знішчыць усе культурныя, гаспадарчыя і палітычныя традыцыі беларуска-летувіскіх зямель, кабператварыць іх у звычайную расейскую правінцыю.

У грамадстве Беларусі і Летувы запанавала расчараванне. Аднак людзі не здаліся на волю лёсу. Змаганне за свабоду і незалежнасць набыло новыя формы. Грамадскім ідэалам стала ўзбагачэнне. Лічылася, што кожная асоба, якая разбагацела, робіць багацейшай усю нацыю.

На працягу апошняй трэці XIX стагоддзя ва ўсіх галінах эканомікі Беларусі і Летувы запанаваў капіталістычны спосаб вытворчасці. Паступова ўзнік пласт багатых прадпрымальнікаў, якія стварылі буйныя капіталы ў розных галінах. Уласную свядомасць яны характарызавалі так "паляк — па нацыянальнасці, ліцвін — па паходжанню".

Іх прыналежнасць да польскай культуры спалучалася з усведамленнем беларуска-летувіскага краю, як сваёй радзімы. Усе яны былі тутэйшага (беларускага або летувіскага паходжання).

Але беларуская ідэя была развіта вельмі слаба і ў большасці сваёй яны стаялі за ідэю польскую супраць ідэі расейскай. Гэтая іх становішча вымушанае. Кожны з іх мог прыйсці да сваёй Беларусі, ды шлях гэты прыпаў на пералом эпохаў. Але тое што яны рабілі для польскай ідэі пры лепшым раскладзе грамадзкіх сілаў магло рабіцца і для Беларусі.

Некаторыя польскія даследчыкі пачатак XX стагоддзя ў гісторыі Вільні назвалі "эпохай Мантвіла". Юзаф Мантвіл (1850—1911) быў адным з заснавальнікаў, а потым дырэктарам Віленскага зямельнага банка. З першых дзён ягонага існавання (1885) Ю. Мантвіл і кіраўніцтва банка выкарыстоўвалі ўсе магчымасці дзеля абароны польскага і каталіцкага землеўладання. У першую чаргу гэтай справе служыла сістэма крэдытавання. У выпадку банкруцтва палякаў і католікаў рабілася ўсё магчымае, каб зямля не перайшла ў рукі рускіх памешчыкаў і чыноўнікаў. Пры гэтым банк быў гатовы нават несці пэўныя страты. Вось як ацаніў дзейнасць Віленскага зямельнага банка карэспандэнт "Московских ведомостей": "Віленскі зямельны банк прымае пад заклад выключна польскія маёнткі. Ён трымае ў сваіх руках усе зямельныя багацці дзевяці заходніх губерняў і стаіць на варце польскіх інтарэсаў краю. На банк нельга глядзець, як на камерцыйнае прадпрыемства. Ён з'яўляецца самай буйной палітычнай сілай у краі, галоўная ягоная задача – захаваць польскія маёнткі ў польскіх руках".

Трэба адзначыць асабістае фундатарства "першага" віленскага банкіра. Ю. Мантвіл быў фундатарам польскага музычнага таварыства "Лютня" (1905). У гісторыю польскай музычнай культуры віленскай "Лютня" ўвайшла як пачатковая школа многіх вядомых музыкантаў. Дзякуючы фундатарству Ю. Мантвіла, у Вільні дзейнічалі Школа малюнку і некалькі дзіцячых прытулкаў. Усе гэтыя ўстановы адначасова былі тайнымі польскімі школамі.

Ю. Мантвіл меў велізарны аўтарытэт сярод польскай грамадскасці Вільні. Адносіны з ім падтрымлівалі нават польскія сацыялісты, як, напрыклад, Ян Пілсудскі. Гэта пры тым, што кансерватыўныя погляды віленскага банкіра былі добра вядомыя. Край ужо абляцела фраза Ю. Мантвіла: "Хто не быў сацыялістам да 25 гадоў, той не мае сэрца. А хто застаўся ім пасля 25 гадоў — не мае розуму". Агульная праца на карысць нацыянальна-культурнага Адраджэння аб'ядноўвала людзей з рознымі палітычнымі пазіцыямі. І прыкладаў гэтаму мы маем шмат.

Губернскі маршалак шляхты граф Адам Браэль-Плятэр хаваў у сваім доме ад паліцыі дзеячаў Польскай сацыялістычнай партыі (ППС). Дэпутат Дзяржаўнага савета Іпаліт Корвін-Мілеўскі (1848—1932) дапамог баевіку ППС Чэславу Свірскаму, калі той шукаў сховішча пасля нападу на паштовы цягнік. Вядомы ва ўсім краі і за ягонымі межамі публіцыст і палітык схаваў Ч. Свірскага ва ўласным доме. А потым знайшоў для яго адзенне, грошы, новыя дакументы і білет на цягнік. У 1907 годзе І. Корвін-Мілеўскі выкарыстаў усе свае сувязі,аб не дапусціць высылкі ў Сібір віленскага біскупа Эдварда Ропа. Гэтае заступніцтва заслугоўвае ўвагі, бо яшчэ на пачатку 1906 года І.Корвін-Мілеўскі публічна жорстка крытыкаваў грамадска-палітычную дзейнасць біскупа. Ён літаральна падверг знішчэнню напісаную біскупам праграму Канстытуцыйна-Каталіцкай партыі Літвы і Беларусі (ККП). Праз год гэта не перашкодзіла кінуцца на выратаванне Э. Ропа.

І. Корвін-Мілеўскі быў галоўным фундатарам будаўніцтва гмаху польскага тэатра ў Вільні. Інкогніта ён заснаваў дзве стыпендыі для студэнтаў-віленцаў, якія вучыліся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта.

Адна з найбагацейшых віленскіх арыстакратак Мечыслава Еленьска, візіт да якой абавязкова наносіў кожны новы губернатар, вяртаючыся з Царства Польскага, звычайна везла ў сваёй карэце забароненую польскую патрыятычную літаратуру.

Тайную школу, у якой вучыліся каля 100 (!) дзетак, стварыў ва ўласным маёнтку яшчэ адзін з дырэктароў Віленскага зямельнага банка Эдмунд Барткевіч. А па ініцыятыве дырэктара Віленскага гандлёвага банка Караля Сальмановіча ўсе сябры Шляхецкага клуба плацілі падатак на падтрымку тайных польскіх школ на Віленшчыне. Дзейнічала непісанае правіла — на патрэбы тайнай адукацыі перадаваліся ўсе выйгрышы ад гульні ў брыдж і інш. Зачастую гэта былі значныя сумы.

Абаронцам нацыянальна-культукрных традыцый на Міншчыне стаў прадстаўгнік старажытнага беларускага роду Эдвард Вайніловіч (1847—1928). Для Менска і Слуцкага павета канец XIX — пачатак XX стагоддзя ў пэўным сэнсе быў "часам Вайніловіча". Суддзя павятовага суда, заснавальнік Менскага сельскагаспадарчага таварыства, дэпутат Дзяржаўнага савета Э. Вайніловіч мацней за іншых усведамляў Беларусь як сваю Радзіму. Ён падтрымліваў сувязі з дзеячамі беларускага руху, і, магчыма, толькі сацыяльны радыкалізм апошняга перашкодзіў далучэнню да яго Э. Вайніловіча.

У значнай меры дзякуючы Э. Вайніловічу, сучасную плошчу Незалежнасці беларускацй сталіцы ўпрыгожвае касцёл святых Сымона і Алены. У канцы XIX стагоддзя ў Менску заставаўся толькі адзін вялікі каталіцкі храм, што было яўна недастаткова. Каталікі-менчане неаднаразова звярталіся ра расейскіх уладаў з просьбай дазволіць будаўніцтва яшчэ аднаго храма. Дазвол быў дадзены толькі ў сакавіку 1905 года. А ў 1910 годзе касцёл быў ужо асвечаны. Такія хуткія тэмпы былі забяспечаны грашыма Э. Вайніловіча. Ён фінансаваў узвядзенне касцёльнага гмаху і стварэнне часткі інтэр'еру. Аздобіць касцёл таксама дапамаглі сродкі менскіх парафіян (1500 руб.), графа Э. Чапскага (1000 руб.) і інш. Сям'я Скірмунтаў з Парэчча Пінскага павета перадала касцёлу старажытны абраз Маці Божай.

Э. Вайніловіч быў старшынёю Таварыства дабрачыннасці ў Слуцку. У гэтым горадзе, дзякуючы ягоным намаганням, адчыніла дзверы гандлёвая школа. Будынак для яе быў узведзены за кошт слуцкага фундатара. На ягоныя грошы быў узведзены інтэрнат для 60 самых бедных вучняў Слуцкай гімназіі.

Дырэктар Тэхнічнага дэпартамента ў Міністэрстве фінансаў, "правая рука" самога Сяргея Вітэ, Леанард Іваноўскі кіраваў акцыяй дапамогі палітзняволеным з Віленшчыны. Гэты тайны саветнік заснаваў ва ўласным маёнтку нелегальную сельскагаспадарчую школу для дзяцей сялян.

Баляслаў Ялавецкі, сябра Савета па справах чыгункі пры Міністэрстве шляхоў зносін, адзін з кіраўнікоў буйнейшых металаругічных і чыгуначных сіндыкатаў на тэрыторыі Расіі, чалавек, які нёс асабістую адказнасць за ўсе чыгуначныя пераезды імператара і ягонай сям'і, падтрымліваў апазіцыйны хрысціянска-дэмакратычны рух на Беларусі і Летуве. Менавіта ў ягонай асобе віленскі біскуп Э. Роп, знайшоў моцную падтрымку сваёй ініцыятыве па ўтварэнню ККП.

Адчуваючы сябе не толькі палякам, але ў першую чаргу грамадзянінам краю, Б. Ялавецкі фінансаваў выданне ў Пецярбургу летувіскай газеты "Lietuviskas lejkrastis". Іншы "грамадзянін краю" Раман Скірмунт фінасава падтрымаў ввыданне "Нашай Нівы".

Актыўна спрыяў польскаму культурнаму Адраджэнню адзін з самых папулярных і багатых маскоўскіх адвакатаў, ураджэнец Менска Аляксандр Лядніцкі (1866—1934. Праз утворанае ў 1893 годзе Рымска-каталіцкае таварыства дабрачыннасці ён дапамагаў палітзняволеным з Беларусі. Пры ягонай фінансавай падтрымцы ў сталіцы Расейскай імперыі былі створаны такія арганізацыі, як музычны клуб "Лютня", Саюз польскіх сокалаў, Саюз польскіх жанчын, Польскі дом і інш. А. Лядніцкі спрычыніўся да арганізацыі святкавання ў Маскве 100-годдзя нараджэння. Адама Міцкевіча (1898), юбілея Г. Сянкевіча (1900). Ён перадаў значную суму ў грамадскі фонд забеспячэння старасці пісьменніцы Марыі Канапніцкай.

Сярод віленскіх рамеснікаў актыўна дзейнічаў малады прадпрымальнік Зыгмунд Нагродскі (1865—1937). Для дзяцей рамеснікаў ён ладзіў літаратурна-музычныя вечарыны. Менавіта ён у самым канцы XIX стагоддзя ўзначаліў сетку тайных школ на Віленшчыне. Уласным коштам З. Нагродскі выдаваў календары для сялян і танныя брашуры з творамі Адама Міцкевіча, Элізы Ажэшкі, Баляслава Пруса і інш.

У 1899 годзе ён стаў уладальнікам аднаго з буйнейшых у Вільні складаў сельскагаспарадчых прыладаў працы. У якасці дадатку да прададзенага тавару ён распаўсюджваў польскую патрыятычную літаратуру і варшаўскія газеты. Тое ж самае рабілі работнікі абутковага складу Касоўскага. Пры ўпакоўцы яны ўкладвалі разам з абуткам польскамоўныя брашуры і ўлёткі. Аналагічныя "падарункі" рабілі прадаўцы крамы моднага адзення Ярашынскага.

Гэты патрыятызм далёка не заўсёды быў рамантычным, часта ён быў прагматычным. Але ён апраўдваў сябе. Польшча заваявала свабоду. Пры прагматычным патрыятызме новых беларусаў Беларусь свабоду адстаіць.

**Паводле Аляксандра Смалянчука. г. Гродна.**

12 КАСТРЫЧНІКА — ГОД СА ДНЯ СМЕРЦІ АНАТОЛЯ МАЙСЕНІ

# Журботны маналог да гадавіны згубы Краінай свайго сына

***Антаніна Хатэнка***

Свет, у якім не знайшлося Табе прытулку, — аголены да нярвіны, да адкрытае балючае раны, якую ўсё забінтоўваюць туманнай хлуснёй. Здаецца, што праз гэтую завалоку імглы не прабіцца ніводнай жывой душы. І мне ўсляпую навобмацак не дабрысці да цябе, не дакрануцца ні словам, ні поглядам, ні ўтрапнёнай думкаю да твае Дзядовае ўжо мудрасці, да твае пранікліваe відушчасці. А гэтак нястрымна, гэтак гаркотна карціць дазнацца "прагноз надвор'я на дарогах беларускае палітыкі" — прагноз ці згубы нашае маўклівае, ці зацятага ўваскрошання святла, схаванага ў глыбінях народнае свядомасці.

З апошніх высілкаў я намагаюся хоць бы на першую прыступку ўскараскацца тае надломнае Лесвіцы, па якой ты цэлы год узыходзіш паранена-надрыўна да праўды. Узыходзіш, наноў спасцігаючы існасць з'яўлення свайго на гэтай Зямлі ды бязлітаснага вылету з яе на самым Уздыме Духу.

Але хлусня прабіла навылет — і Дух, і цела, і Тваю распачатую справу, і дарогу, што ўпарта адольваў Ты адзін дзеля паратунку Бацькаўшчыны. Твой апошні артыкул называўся "Ложь — рычаг прогресса?" — гэта выкіравала, выруліла да Твайго сыходу. Але хлусні не дадзена было ведаць, што праз пакуту смерці яна творыць табе скачок у будучыню. Што і катаваны, і зняважаны ты застаешся з Радзімай, бо ты яе меў у душы — Радзіму-крэўнасць.

Мне падказвае пуціну да цябе памяць. Мы не былі знаёмымі — ніколі не сустракаліся, але сцяжыны кружлялі поруч — у тым самым лабірынце любві і сумніву, светлага болю і ненатольнае праўды. Сцяжыны выводзілі да таго негасціннага гасцінца, на якім немінуча кожны падарожнік-думца апынаецца адзін. Перачытваю твае артыкулы — і насмешна згадваю, як упарта не прымала колісь аніводнае заўвагі ў адрас адраджэнскага руху, як пыхліва злавалася на кожнае тваё супастаўленне з якога вызіралі нашая грамадзянская гняўлівасць і сляпучасць, нашая няўклюдная спроба ўсё адным махам пераліцаваць наадварот...

Мільгануў няўмольны час. 10 гадоў з першых павяртаных Дзядоў ля помнікаў Купалу высвецілі Тваю праведнасць, да якое я цяжка тупала па сваіх скрыжалях: разбурыць усё дашчэнту не азначае збудаваць, стварыць лепшае. Мы ўсё яшчэ руйнуем. Мы нібыта не бачым як нахабна распроствае на руінах дужыя плечы пустадомства і бяздушнасць. Мы ўсё яшчэ баімся паглядзець самім сабе вочы і прызнаць дарэмнасць змагання з сістэмай, спраграмаванай на рабства, пакуль не пермог у сабе пачуванне раба-ахвяры, падуладнай гэтай драпежнай сістэме.

Ты ніколі не выглядаў ахвярай, зацкаванай распарадчыкамі. Ты быў і застаўся Асобай, Адзінкай, займеўшай неад'емнае права на сваю думку і сваю пазіцыю. І гэтае права Ты здабываў працаю, дасканалячы розум і душу, маючы мужнасць пераглядаць, пераацэньваць сваё быццё — чалавека, прафесіянала, грамадзяніна, мужчыны-абаронцы.

Гэтае адважнае права быць Самім Сабою, не прынізіцца да прыстасаванства, не ўкленчыць перад чужою лютасцю дало Табе моцы не адступіцца, не сысці ў цёплыя сховы, калі ўслед ступала смерць. Калі смерць чакала Твайго змірэння: каб злітавацца, не падпільноўваць у дарозе дадому. Ты выбраў Волю. Сцюжную Волю, за якую трэба было заплаціць жыццём. А ў жыцці заставаліся хараство, вера, каханне, памяць роду, малое птушаня-дачка. У жыцці заставалася ўсё дарагое і любае, дзеля чаго трэба было сцярпець, як моўчкі церпяць нашыя некаторыя творцы-"змагары", — сцярпець абразу твайго дому, твайго вытоку і твае людскае вартасці...

Ды вакол сцішна дыхала Скурчаная Краіна, што прыняла Цябе колісь на рукі і выправіла шукаць Сябе. Прарывацца скрозь ліпкую імглу, што праглынула Беларусь, было наканавана Табе родам і лёсам — у сям'і быў культ Айчыны ды асветы. Адкаснуцца да гэтага — значыла згубіць Сябе. А колькі нас, ужо згулбеных, блукае па Краі, азіраючыся, падладоўваючы лад мыслення і пачування ў свеце пад чужынскі ці, яшчэ горай, пад уласную статкавасць...

"Ты быў, як месяц, адзінокі". Смерць, быццам люстэрка: не хібіць, адбівае сутнасць. І цяпер бачна, як ідзеш ты адзін, упэўнены і ўпарты, улюбёны ў кожны дзень, які дае табе тварыць і думаць. Ідзеш і ведаеш: той пачатак, за які некалі рэпрэсавалі бацьку, дае пагон-падростак. Ідзеш і адчуваеш: не выстудзіць зямлю, сагрэтую продкамі. Ідзеш і верыш у вечнасць Праўды, якая не заалежыць ад колькасці яе носьбітаў, а слухае толькі голас народу.

Род і цяпер Табе не здрадзіў. Род абярожна трымае справу Тваю, прымаючы адказнасць за Шлях, вырачаны на Адзіноту, нязломную і годную. Род не страшыцца адказнасці, асцерагаецца аднае маны — перад сабою і перад гісторыяй. Род прабіваецца праз імглу, якая ў 47-ым запалоніла на Урал Твайго бацьку а ў 97-ым, праз цямотнае 50-годдзе, злоўчана ахутала судовую справу пра Тваю гібель.

Род ведае і верыць: Ты не загінуў. Ты аддаліўся, узвышэў, каб сконам сваім засланіць Беларускае Дрэва гатовае выкрыліць новыя пупышкі. Род расхінае да цябе падзячліва пяшчотныя рукі тваёй дачкі, якая малітоўна просіць у храме пад абразамі: "Божачка, вярні мне тату!". Для якое першым прачытаным самастойна словам стала Тваё, Вашае, прозвішча на магільным крыжы — на крыжы, што недачэпна беражэ памяць.

Роду адкрытая таемная ісціна: Ты побач, Ты вернешся, Ты ратуеш. Бо нясгасная повязь глебы і долу. Бо глядзіць самотна ў вышынь, шукаючы тваіх слядоў, бацькоўская хата з-пад Нясвіжу, абжытая чужымі людзьмі, але родная — гняздо, да якога ты паклонна ішоў у дзень свайго шлюбу і ў дні жудаснага прадчування, калі падступала вечнае – смерць. Калі дарога, разасланая ўдалеч рашучаму Аднаму, стала прыцягненнем-развітаннем. Стала дарогай да маці і бацькі, якія яшчэ дасылалі Табе адтуль, з Неба, магуты адолець імглу.

Імгла не паглынае светлых: узыходзяць яны горда на белую строму Усясветнай гармоніі і вястуюць да нас адзіную праўду: Быць Сабой. Мы чуем цябе, Анатоль. Мы чуем твой растрывожаны, узбуджааны голас, што ляціць яшчэ з мінулагодняга лістападу.

... Не знікай. Не пакідай нас, Анатоль. Трэба тут Твая настойлівсць і Твая непадкупнасць. З хораму Божага, дзе ёсць і Табе свая Покуць, прыхіліся да халоднае зямлі, якая памятае Цябе і мае надзею не згубіць твайго голасу ў бязмежжы.



*Анатоль Майсеня. Адзін з апошніх здымкаў 19.09.1996 года. За тры тыдні да смерці.*

*Здымак У. Кармільчыка*

# СТАЎРЫ І ГАЎРЫ

“Першыя людзі на зямлі былі волаты. Іх называлі стаўрамі і гаўрамі: стаўры — мужчыны, гаўры — дзеўкі. Яны былі дужа вялікімі і дужа доўга жылі на свеце. Елі яны толькі сырое. Тыя з іх, каторыя асканоміліся вараным з кожным пакаленнем меншалі і карацей жылі на свеце. Калі волаты паміралі, то іх клалі на зямлю і насыпалі на іх горы, на памятку. Гэткія горы-магілы і цяпер ёсць. Называюць іх людзі валатоўкамі...”

Так пачынаў свой славуты “Беларускі радавод” адзін з фундаменталістаў беларускага Адраджэння пачатку XX ст. Вацлаў Ластоўскі, глыбачанін. Якой бы гэта не здавалася прыгожай, рамантычнай казкай, беларускім міфам, але тое ёсць толькі на першы погляд.

Разгарнём падрабязную мапу Віцебшчыны. Каля горада Оршы мы знойдзем даволі вялікую вёску Стаўры, а на Браслаўшчыне, недалёка ад возера Обаль — вёску Гаўраны, у тым жа раёне, на беразе Багінскага возера — вёску Стаўрава.

Чым больш пранікаешся гэтай тэмай, пачынаеш разумець: гэта — не проста казка, міф, а — цэлая беларуская філасофія. Філасофія поўначы Беларусі, Прыдзвінскага краю.

Два гады таму краязнаўчыя вышукі звялі мяне з адной глыбоцкай шляхцянскай, пані Ганнай. Пасля працяглай гутаркі аб мінулым Глыбокага, пані Ганна рашыла прэзэнтаваць мне адну вельмі старую кнігу. Казала, што такіх старых кніг на гарышчы Глыбоцкага касцёла было некалі шмат. Гадоў дваццаць таму ксёндз распарадзіўся ачысціць гарышча, а кнігі раздаць парафіянам на распалку печак. Аднак гэтую кнігу, якую выдалі роўна 150 гадоў таму яна не спаліла, захоўвала ў куфры. Разумею цяпер, як знаходзілі сюжэты для сваіх прыгодніцкіх раманаў незабыўны наш Уладзімір Караткевіч.

“OPISANIE POWIATU BORYSOWSKIEGO”, чытаю загаловак кнігі на польскай мове. кніга выдадзена у Вільні ў 1847 годзе Еўстафіем Тышкевічам. Добрую палову кнігі складаюць тэксты, напісаныя па-беларуску лацінскімі літарамі ў польскай транскрыпцыі. Праўда, гэта датычыць толькі народных песняў і прымавак, сабраных у Барысаўскім павеце Менскай губерні, да якога, на той час, належаў і горад Докшыцы.

Аўтар кнігі згадвае, што напачатку XIX ст. у ваколіцах Докшыцаў “над Бярэзінай і да межаў Белай Русі (Bialej-Rusi), яшчэ перад зялёнымі святкамі адзначалася ўрачыстасць Дзяды Стаўроўскія”. Урачыстасць гэтая “была адметнасцю Белай Русі”.

Пры звычайнай у падобным святкаванні вячэры гаспадар, забраўшы ў сподак частку ежы, згінаецца пад стол і тройчы гукае: “Стаўры, Гаўры, гам. Прыхадзіце к нам!” І гэтым Дзяды Стаўроўскія адрозніваюцца ад іншых Дзядоў. Вытокі гэтае ўрачыстасці згубіліся ў глыбіні стагоддзяў і паданні не захаваліся. У XVIII ст. на Белай Русі П. Баршчэўскі натрапіў на наступную аповесць: “Над рэчкай Дрысай знаходзіўся двор Краснаполь, аточны з усіх бакоў лесам. Там ёсць месца, дзе, як апавядаецца, жыў некалі, яшчэ за часам паганскім, князь Бой, слынны на ўсёй Белай Русі, як вялікі волат, і правіў цэлым народам, які жыў у тых дзікіх старонках на берагах Дрысы.

Звычайнай яго забавай было з лукам і стрэламі звездаць бары, забіць лася і іншага дзікага звера, для чаго меў пару верных агараў: з тых адзін зваўся Стаўры, другі Гаўры. Былі яны надзвычай дужымі і разумнымі. Найстрашнейшы мядзведзь у сутычцы з імі не мог утрымацца, умомант быў раздзёрты нібы заяц злоўлены ганчаком. Калі князь Бой на паляванні аддаляўся далёка ад сваіх сябровў і быў атачаны з усіх акоў разбойнікамі, забіваў іх альбо паваргаў у бегства, пушчаў на іх сваіх моцных агараў, неадночы, калі заблукаўся у далёкіх лясах, псы яго ішлі наперадзе, выправодзілі на дарогу і да самага дому.

Аднойчы Бой пастнавіў упарадкаваць межы сваіх уладанняў. Ён загадаў Стаўры бегчы на ўсход сонца, Гаўры — на заход сонца. І колькі вёрстаў прабягуць псы: Стаўры пакуль сонца ўзыйдзе, Гаўры пакуль сонца зыйдзе — такімі і быць межам Белай Русі.

Шмат разоў гэтыя псы выратоўвалі свайго пана ад небяспекі і непрыемнасцяў і былі для яго самай лепшай забавай. Распавёў пра тое падданым сваім, абы ім аддавалі почасць, як найважнейшым пры ім асобам; а калі ад старасці адзін за другім скончылі жыццё сваё, за заслугі былі прызначаны дні ўрачыстыя. Народ збіраўся на тым месцы, дзе былі закапаныя іх косці; прыносіў туды напоі і ежу, почасць трывала да позняй ночы; рэшткі ежы і косці кідалі на вогнішча. Гукалі імёны двух агараў: “Стаўры, Гаўры, гам. Прыхадзіце к нам!” Выклікалі іх цені з тамтэйшага свету.

І стала так святкавацца ўрачыстасць гэтая на кінутую волю князя па ўсёй Белай Русі і любоў да псоў перадалася на стагоддзі народу тутэйшаму, і любоў гэтая з'яднала народ.

**Уладзімір СКРАБЯТУН,**
**г. Глыбокае.**

# АПОВЕСЦЬ ПРА СЛОВЫ

## *Вавёрка. Мысль*

У “Слове пра паход Ігаравы” ёсць вядомыя ўсім словы:

“Боянь бо вещий аще кому хотяше песнь творити,то растекаша мыслию по древу,
серым вълком по земли,
шизым орлом подъ облакы”

Як можна расцякацца мыслію па дрэву і пры чым тут воўк і арол. Як і чаму пясняр паставіў іх у адзін шэраг. Відочна, меў на тое прычыну, бо ведаў, што мысль гэта не думка, а зусім рэальны звер — вавёрка.

Ёсць і спрэчныя пазіцыі, але глянеш на вытворныя ад слова “мысль”. “Мысліевец” і “myśliwiec” — паляўнічы па старабеларуску і польску, лётчык-знішчальнік па-польску “Myśliwstwo” — паляванне, паляўнічы промысел па-польску.

“Промысел” таксама ад слова “мысль”, “прамысліць”.

Адсюль жа пайшлі словы “прамысловасць”, “прамысловы” і г. д.

Што ж, відавочна, не на сабалёў прамышлялі калісь нашы прашчуры, а на мысляў. Мысль была найменшым зверам, на якога тады палявалі. Шкурка мыслі была адзінкай вартасці іншых шкурак. Собаль раўняўся 30 мысляў, куніца — 6 мысляў.

А што ж сучаснае беларускае слова вавёрка. Адкуль узялося яно. Адкрыем летувіска — расейскі слоўнік

vovere — вавёрка
voveres lisdas — вавёрчына гняздо
voveriauti — паляване на вавёрак
voveryte — вавёрачка
voveruška — лісічка (грыб)

Так, мы згубілі ў стагоддзях сваю векавечную назву тэтага звярка “мысль”. Расейцы недзе прыхапілі назву “белка”, а беларусы пазычылі ў балтаў слова “вавёрка”.

Цікава, што грыб лісічку, які за рыжы колер мы назвалі ад слова “ліса”, летувісы за той жа колер назвалі ад слова “вавёрка” — voveruška.

**Станіслаў Суднік**

## *Вілы. Сахор. Вілкі. Вільчык. Габлі*


*Вілы*

На Гарадзеншчыне мала вядома слова “сахор”. На Меншчыне амаль не ўжываецца слова “вілы”. Па сутнасці сваёй сёння гэтымі словамі называюць адзін і той жа прадмет з трох ці чатырох злучаных паміж сабою жалезных зубоў 30-40 см, насаджаных на драўлянае дзяржанне. Але раней паміж гэтымі рэчамі была вялікая розніца. Вілы былі звычайна драўляныя і скарыстоўваліся для працы з сенам. Сахор — амаль тых ж вілы, але канцы зубоў былі акутыя. Гэтае акуцце і дало назву. Спачатку ў гаспадарцы акоўвалі толькі саху. Пазней, калі пачалі акоўваць вілы, то іх аналагічна ад сахі і назвалі “сахор”. Недзе ў гэтым шэрагу стаіць і слова “сахаты” — лось. Мабыць рогі яго нагадваюць сахор, ці вострыя як сахор.

Ёсць яшчэ адна прылада працы падобная на сахор. У ёй восем зубоў і яны тупыя, нават наўмысля затупленыя. Гэтая прылада не згадваецца ў энцыклапедыях, але народ шырока карыстаецца ёю пры накідванні бульбы ці буракоў. Гэта габлі. Слова вельмі падобнае да слова “граблі”. Але самі габлі гэта зусім адмысловая і чыста беларуская прылада. А назва? З-за вялікай колькасці зубоў яна магла пайсці і ад грабель.


*Вілкі*

Акрамя вілаў ёсць і вілкі. Яны служаць для падхвату чыгункоў пры пастаноўцы ў печ ці даставанні з яе.

Вільчык — разное ўпрыгожванне вяршыні страхі, закрылін. Вільчык нечым нагадвае вілы таму так і называецца.

**Станіслаў Суднік**


*Магілёўская саха*


*Драўляныя двухрогія сахары*


*Вільчыкі*

# МАСТЫ

*Тое, аб чым я хачу распавесці, на маю думку, мела месца ў гісторыі гэтага мястэчка, інакш нічым іншым нельга вытлумачыць такі яго назоў.*

*На шляху ад Вільні да Бярэсця, падымаючы капытамі ды коламі пыл імчалі коні і карэты. У восеньскую слату на гасцінцы з Горадні да Слоніма мясілі багну пешыя просталюдзіны ды грузлі па буксы цяжкія вазы гандляроў. І гэтым двум няблізкім шляхам выпадала скрыжавацца. Адбывалася тое ў невялікім мястэчку, што месцілася на берагах ракі Нёман. З пакон веку тут існавала пераправа. З той нагоды тутэйшыя людзі мелі сталую працу і нейкі прыбытак. А сама пераправа прыносіла вялікі клопат падарожным, асабліва знатнаму люду ды каранаваным асобам. І пасля кожнай такой вандроўкі яны набывалі цвёрды намер пабудаваць тут мост.*

*У той жа час Вялікае Княства Літоўскае нагадвала ў нечым цяперашнюю Беларусь. Тады, пачынаючы невялічкім мястэчкам і валтузячы самую сталіцу, як цяпер Саветы, панавалі ўсюды соймічкі, соймікі, соймы, паслухмяныя ўсемагутнай волі Вялікага князя. Да іх складу абіраліся прадстаўнікі пэўных мясцін. Ствараўся выгляд праўдападобнай сярэдневечнай дэмакратыі.*

*Дык вось ад гэтага мястэчка ў Гарадзенскі соймік быў абраны адзін шляхціц. Гісторыя пахавала яго імя ў сваіх схронах, але вядомыя яго дзеі. На першым паседжанні сойміка той дэпутат унёс прапанову пабудаваць на гэтай важнай пераправе мост. А паколькі засядала там шаноўная шляхта, якая не раз пакутавала на скрыжаваннях тых шляхоў, то яна адразу пагадзілася з месцічам ды хуценька адшукала неабходныя сродкі на будаўніцтва. Дэпутат з правінцыі ў той жа вечар наведаў карчму і пакінуў там усе грошы. На наступным паседжанні сойміка круцель-дэпутат зноў узняў тое ж пытанне. Яму зноў безадказна спрэзэнтавалі грошы. Яснавяльможныя пан і на гэты раз паступіў такім чынам.*

*Настаў час трымаць справаздачу.*

*— Вы атрымалі грошы аж на два масты. Закончылі пабудову?*

*— Так, — адказвае кемлівы шляхцюк. — Адзін Мост з левага боку ракі, другі — з правага.*

*— А цераз раку?*

*— А цераз раку няма.*

*З той пары і сталі зваць мястэчка — Масты Правыя ды Масты Левыя, а мост цераз Нёман паміж імі перакінулі толькі праз некалькі стагоддзяў пазней. Сам жа горад Масты збудавалі ў іншым месцы.*

***Я. ПАЛУБЯТКА,***
***г. Масты***


**Часовы выканаўца абавязкаў рэдактара Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.

*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.

*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
2313000, г. Ліда-2, а/с 7.

*Рэдакцыйная рада:*
Генадзь Бураўкін — старшыня, Людміла Дзіцэвіч, Сяргей Запрудскі, Аляксей Пяткевіч, Аляксей Рагуля, Аляксей Саламонаў, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары нясуць поўную адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку Гродзенскага аблвыканкама. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.

Наклад 2000 асобнікаў. Замова № 2642